# Змест

*Чаму, мой волат малады,*
*Паняцьця нават я ня маю,*
*Учора мы былі на “вы”*
*А сёньня на амаль “кахаю”*

# Марш перамогі

Шоў скончанае! Вольнасьці ня будзе.
Хавайце сьцягі, спадары,
І бяжыце дадому!
Ня будзе волатаў, мы вам хлусілі,
Ня будзе радасьці народа,
Ня будзе крыві адважных на сьнезе,
Ня будзе памяці тых, хто аддаў жыцьцё
За Радзіму, якой – сюрпрыз! – таксама ня будзе.
Ня будзе маршу перамогі
І новае эры.
Шоў скончанае! Няма тут на што глядзець!
Хавайце сьцягі, спадары,
І бяжыце дадому.
Вольнасьці і на кухні ня будзе.

# Прабачэньні

Я была маладая, ва ўсіх бывае,
Люта наіўная, і, таму, небясьпечная.
Я верыла ў абяцаньні, ў каханьне,
І нават у паэзію.
Я шчыра верыла, што прыйдзе вясна,
Я верыла ў веру самую,
Адкуль ж я магла ведаць?
Я была дзіцём вечнага лета,
Я ня верыла ў зіму...
Выбачаюся за боль, які я стварыла,
Я не знарок, сябар мой,
Я шчыра верыла ў нас.

# Тэстамент

Грошай я ніколі ня мела,
Залатую кропку з коскі
Хай атрымае ў спадчыну іншы філёляг,
Які разумее, што гэта – сымбал каханьня
(Два поўныя сказы, абодва аднолькава важныя,
Існуюць разам;
Няма ніякіх “але”, “альбо”, “хаця” паміж імі).
Піяніна хай тацу аддадуць,
Ён сапраўдны музыка,
Інакш бы інструмент сумаваў.
Кнігі для брата, якія па-гішпанску,
Іншыя – публічным бібліятэкам.
Маёй душою падзяліцеся, паэты,
Яе на ўсіх хопіць, прынамсі крыху кожнаму,
Кроў – рэкам,
А попел – мору.

# Lacrimosa

Не хачу яго пабачыць, не хачу!
Прашу, дайце мне  спакою.
Не хачу на яго глядзець, не хачу пабачыць кроў,
І цалаваць дрыготнымі вуснамі ягоныя ледзяныя павекі,
Дайце мне  спакою!
Не хачу пакласьці дзьве ружы на самотны камень,
Не хачу слухаць, які́м ён быў адважным,
Не хачу пабачыць кроў на белай кашулі
І шыпаў руж, не!
Не хачу, каб гучала скрыпка
Уздыхамі Моцарта,
Дайце мне спакою.
Дайце мне заплакаць, ня ўбачыўшы яго,
Дайце мне думаць, што ён вернецца.

# На жыцьцё, нягледзячы на сьмерць

Выбіраю жыцьцё.
Рашэньне было складаным,
Але яно ўжо зробленае.
Без пытаньняў, без ваганьняў,
І бязь лішніх словаў.
Нягледзячы на боль,
Нягледзячы на каханьне,
Нягледзячы на сьмерць,
Выбіраю жыцьцё
(Выбіраю цябе).

# Песьня

Сьпявай, пакуль сьлёзы не зламалі табе голас,
Сьпявай, пакуль псіхіка цэлая,
Сьпявай, пакуль боль выносны яшчэ,
Сьпявай, пакуль меч не дайшоў да тваёй шыі,
Сьпявай, пакуль страх не прымушае маўчаць,
Сьпявай, пакуль жыцьцё не зьмяніла цябе цалкам,
Сьпявай, пакуль сьмерць не скрала ўздых твой
апошні,
Сьпявай, пакуль жаданьне ня зьнікла раптоўна,
Сьпявай, пакуль стаіш, дзе стаяў,
Сьпявай, пакуль сам ня стаў ненавідзець песьню,
Якую будуць сьпяваць іншыя пасьля цябе.

# Годнасьць, ці дарога ня прынятая

У мяне былі ўсе шанцы памерці з годнасьцю,
Варыянт быў найпрасьцейшым, штопраўда.
Трохі той легендарнае адвагі,
І буду ўжо мёртвая,
Без усялакіх хваляваньняў,
Да таго ж – з годнасьцю
(Я гэта ўжо казала).
Больш не гучала б “ты нічога ня ведаеш”,
Ці “ты нас не разумееш”,
Ці “ты жывеш дарэмна”,
Бо я б не жыла.
Не жыла б на каленях,
Чакаючы свайго моманту.
Але я вырашыла не памерці, нават з годнасьцю!
Цяпер трэба падумаць, што далей.

# Ня я

Ня я памру восеню пад золатам горада,
Ня я аддам жыцьцё, даруйце, ня я!
Ня мой здымак будуць паказваць на пахаваньні
З нашым сьцягам і морам кветак.
Не за мяне будуць плакаць хлопцы,
І думаць “шкада, сімпатычная, маладая!”.
Не мае бацькі, ня мой брат
Будуць жыць зь цяжкасьцю пасьля мяне,
Ня мой каханы ня зможа сабе дараваць,
Што ня здолеў мяне абараніць.
Не мяне будуць памятаць усе
Ажно два дні.

# Mourir pour des idées

Казаў мой дзядзька па мячы
(Хай яму зямля будзе пухам),
Што паміраць за ідэю можна й павольна.
Выглядае гэта так, нібы жывеш спакойна,
І нікуды не сьпяшаесься,
Як нармальная, адэкватная авечка,
А ідэя ўнутры цябе расьце,
І забівае цябе патроху,
Пяшчотна, салодка, але настойліва,
Як дасьведчаны каханак.
Так ня станеш волатам, відавочна,
Для шмат каго будзеш толькі крывадушнікам,
Але яны памруць раней за цябе,
А ідэя будзе жыць у тваёй галаве.

# Пляж пад брукаванкаю

Ты верыш, што неба блакітнае за хмарамі?
Ты верыш, што пад сьнегам зялёная трава?
Ты верыш, што прыгожыя дзяўчаты
Будуць ізноў шпацыраваць?
Ты верыш, што за сьвятлом вялікага горада
Сьпіць мільён малых, чароўных зорак?
Ты верыш, што пасьля сьлёзаў на твары
З’явіцца шчырая ўсьмешка?
Ты верыш, што старыя почапкі
Могуць распавядаць, якое жыцьцё прыгожае?
А я веру, што пад брукаванкаю на плошчы
Ёсьць пляж падобны да нябёсаў.

# Крэпасьць

Зачыні ўсе дзьверы, ўсе вокны,
Зачыні акуратна, ты гэта ўмееш,
Трэба, каб было абсалютна бясьпечна!

Заплюшчы вочы, бач ты, каб ня бачыць,
Закрый вушы, замкні вусны, як толькі зможаш,
Трэба, каб было абсалютна асептычна!

А калі падумаеш, што ўсё зачынена,
Далей зачыні сэрца, не адчувай,
Трэба, каб было абсалютна безбалесна!

Вось твая крэпасьць,
Твой спакой,
Твая сьмерць!

## I. Агапэ

Рука матулі лашчыць першы раз малога,
Брат абараняе сястру перад холадам,
Дзядуля вучыць унука гуляць у шахі,
Сябры забываюць праблемы абдымкамі...
Дык веру ў агапэ.

## II. Філія

Пакуль будзе на сьвеце добры незнаёмец,
Пакуль будзе справядлівы ідэал,
Пакуль будзе шчыры падарожнік,
І закаханы паэт, гатовы хлусіць,
Я верыцьму ў філію.

## III. Эрас

Душа з душою займаюцца каханьнем
Паміж зоркамі неба,
Там, дзе яшчэ ў нейкае форме
Існуе вечнасьць.
Мае думкі пра цябе вадаспадам
Апаноўваюць маю галаву
Няма іншык рук, апроч тваіх,
І веру толькі ў тваё імя – эрас.

***

Трымаць вінтоўку не магу,
Я не заб’ю, я не памру,
Дык будзе слова.

Нікога не змагу пабіць,
Бо мне і боль чужы баліць,
Дык будзе слова.

Я не змагу сябе аддаць,
Я развучылася кахаць,
Дык будзе слова.

Але пішу ды гавару,
Усё, усё табе скажу,
Дык будзе мова.

# Дзеля цябе

Дзеля цябе я гатовая
Спусьціцца ў пекла,
І прымушаць цябе глядзець наперад,
Пакуль вяртаемся дадому
(Гэта калі б у нас быў дом,
Куды вяртацца,
Бо ўсё, што мы мелі,
У нас скрала вада).
Дзеля цябе я гатовая
Пабудаваць табе новую хату
У мяне на каленях,
Дзе можна будзе вечна зімаваць.
Дзеля цябе я нават гатовая
Саджаць пралескі сваімі рукамі,
І стварыць табе новую вясну,
Калі ты будзеш у яе верыць.
Дзеля цябе я гатовая
І на жыцьцё, на жорсткае жыцьцё...

# Трымаць тваю руку

Першы раз у жыцьці, ці амаль,
Я хачу быць трохі эгаісткаю:
Хачу выплакацца ў тваіх абдымках,
І займацца каханьнем з табою,
Каб забыцца пра боль ад старых ранаў.
Хачу вылячыць сваю душу асалодаю,
Хоць і часова, недасканала,
Хачу кахаць цябе языком,
Каб твая прысмак падсаложвала мае словы,
Хачу адчуць цябе ўнутры мяне,
Каб стогны не давалі чуць буру.
І хачу трымаць тваю руку,
Калі сьмерць прыйдзе па мяне.

# Няпэўнасьць

Калі можна давяраць навукоўцам,
Як аказалася, будучыня адбудзецца, як і плянавалася.
Я не была гатовая да такой магчымасьці, шчыра кажучы,
Трэба будзе выбраць новыя мары
(Бо старыя ў шуфлядзе ўжо памерлі),
Спакойна перачытваць вершы і выкідаць непатрэбнае,
Праць майткі і набываць новыя,
Заплаціць адразу тое, што вінная,
І падумаць, ці каханьня аднога дастаткова,
Каб у нас нешта выйшла.
Ну, гэта калі можна давяраць навукоўцам,
А не папросту чакаць сканчэньня
У тваіх абдымках.

# Сон

Час ад часу я бачу такі дзіўны сон,
Нібы я прачынаюся, і ня ведаю беларускую мову.
Ня тое нават, але й французскую забыла,
Толькі ангельскую крыху памятаю,
І сваю родную.
Ну, а я спакойна працую па дзяржаўным іспыце,
Зь дзявятае да пятае ў цені вечара
(А нават ня думаю пра Лорку).
Я прачынаюся разам з хлопцам-гішпанцам,
Якога я кахаю памяркоўна і бясьпечна,
І распавядаю яму пра сьмешны сон,
Дзе я была беларускаю паэткаю.
Ён пяшчотна сьмяецца, кажа,
“Што за краіна ты сказала? Ты – паэтка?”
А я адказваю, што ўжо ня памятаю.
Забываю сон патроху, як сьнег растае,
Калі прыяжджаю на працу, яго ўжо няма.
І цябе ўжо няма.
Добра, што гэта толькі сон,
І другі раз прачнуся, ў пустым ложку,
З болем тваёй адсутнасьці
І адгалоскамі бою.

# Герніка

Гэта было ў Мадрыдзе, а менавіта
У цэнтры мастацва каралевы Сафіі
(Які мясцовыя жыхары называюць “Сафіду” –
Націск на “у”).
Малы хлопчык спалохаўся, калі ўбачыў
Велізарную карціну “Герніка” Пікассо
(Дарэчы, па-гішпанску чытаецца “Пікасса” –
Націск на “а”).
Малы спытаў маладую маму:
–Мама, што за карціна?
Мама падыйшла і зачытала,
–Называецца “Герніка”, даражэнькі. Падабаецца?
Хлопчык абурыўся, і адказаў, ледзь стрымліваючы
сьлёзы,
–Не! Брыдкая карціна, цёмная! Я баюся! Чаму яна
такая?
Мама паціснула плячыма,
–Ня ведаю, Пікассо заўжды быў дзіўным, сонейка.
І яны пайшлі далей.

Насамрэч, Пікассо намаляваў гэтую карціну
Не, каб упрыгожваць буржуазную гасьцёўню,
А каб людзі не забывалі пра вайну,
Што ў яго, на шчасьце ці на жаль,
Ня выйшла.

# Чырвонае на белым

Далёка падаў сьнег, далёка,
Далёка ішлі дванаццаць
Волавых сьвіней,
Крывавыя сьляды на сьнезе,
Гарачае, злавеснае, наіўнае крыві.
Далёкае рэха.
Ідыётка зноўку думае,
“Калі мяне ў сьнежні не было,
Дык я папросту была ня ў горадзе,
Далёка”.
Амэрыканскі Санта Клаўс
Іранычна вітаецца зь ёй,
Калядная песьня вышукана сьмяецца,
“Adeste, fideles
Laeti triumphantes…”
Далёка, паміж сьвяточнымі агнямі,
І вакумам,
Памірае дзяцінства,
Ідыётка нараджаецца ізноў,
Жыве вечна!

# Нявеста

Бяжы, дзяўчына, ўцякай,
Бо хутка выйдзе Селена,
Будзе зайздросьціць тваёй жамчужнае сукенцы!

Бяжы, дзяўчына, ўцякай,
Бо хутка прыйдзе муж
І скрадзе тваю дзіцячую нявіннасьць!

Бяжы, дзяўчына, ўцякай,
Бо хутка прылеціць сьмерць
І пасадзіць чырвоныя ружы ў тваіх грудзях!

Бяжы, дзяўчына, ўцякай,
Бо хутка нахлыне мора,
І ператварыць цябе ў саляную статую!

Бяжы, дзяўчына, ўцякай,
Бо хутка будзе позна,
І будуць толькі сьлёзы!

# А ўсё ж, я ёсьць

А ўсё ж, я ёсьць.
Ня зьнікла я громам,
Вытрымалі сэрца і мазгі,
Вось як бывае.
Але, калі шчыра,
Гэта ня тое, чаго я нібыта чакала.
Так, ты ўсё спакойна патлумачыў,
Запрапанаваў застацца сябрамі...
Я драмы чакала, я расчараваная!
Нас па-іншаму кідаюць,
Талеркамі ў галаву,
Крыкамі лаянкамі,
Кроўю, потам разьвітальнага сэксу.
Як ты можаш быць такім спакойным?
Як ты можаш быць такім спакойным?!
А ўсё ж, я ёсьць.
ЯК ВЫ МОЖАЦЕ ГЛЯДЗЕЦЬ НА МЯНЕ ТАК СПА-
КОЙНА?!

# Літаратуразнаўства

Калі я дзеяслоў – спрагай мяне.
Калі я песьня – сьпявай мяне.
Калі я раман – згубіся ў маіх старонках.
Калі я паэзія, хачу, каб мяне пісаў ты,
Без цэнзуры,
Без чарнільных плямаў,
Без вайны.
Зрабі мяне сваім натхненьнем.

# Прамова крывадушніка

Я ведаў яе асабіста,
Меў у жыцьці такі прывілей.
Яна была жанчынаю з тэмпераментам,
У душы – нашаю.
Яна змагалася разам з намі
Літаральна да сьмерці.
Адважная дзяўчына,
Цудоўная паэтка,
Сьпявала, як анёл,
І шчыра любіла Беларусь.
Мы страцілі надзвычайнага чалавека,
Я страціў і сяброўку
–Робіць выгляд, што стрымлівае сьлёзы–
Жыве Беларусь!
–Народ: “Жыве вечна!”–

# Эпітафія

Нарадзілася ільвіцаю,
Вырасла з тэмпераментам,
Памерла, як жыла,
З усьмешкаю.

# Парушанае абяцаньне

Мне балюча пра гэта думаць, не падумай,
Балюча думаць, што будзе, калі мяне ня будзе
На цёмных барыкадах.
Балюча думаць, што гісторыя
Ідзе наперад і безь мяне,
Што я ня так патрэбная, як тады падумала,
І ня так важна, ці ненавідзіш мяне,
Ці любіш, ці забыўся,
Ці кахаеш.
І ты зьмяніўся, і ты!
Толькі бач, хто ў люстэрку жыве:
Гэта ўжо ня волат маіх мараў,
Як і я не прынцэса ўжо з казкі.
А можа, так і трэба.

# У цені яблыні

Учора, як вярталася дадому
У шэрым аўтобусе,
Сонца сьпявала мне калыханку бяз словаў
Скрозь пластыковае акно.
А раптоўна – хаця ня ведаю,
Ці я спала, ці яшчэ сьвядома
Сачыла за небам –
Убачыла я прыемнага старога пана,
Які сядзеў у цені яблыні.
Аўтобус затрымаўся, і я глядзела,
Як чалавек маладзее, ўсьміхаецца
І захацела падыйсьці да яго,
І вечна сядзець у цені яблыні.
Але ён мне сказаў, “трэба дадому,
Бо ўжо позна”.
Тады я зразумела, што ня сплю,
І абавязкова неабходна даехаць да роднага мора.

# Бура і націск

Гэта ня скарга, вядома,
Я люблю сябе
(Ужо нават шчыра),
Але часам цяжка жыць
З паўднёвым характарам,
Далёкім каханьнем,
Вайною ў галаве,
Кепскімі ўспаміні
(І добрымі і балючымі),
Моцным жаданьнем
І незразумелаю будучыняю,
Паміж бураю і націскам,
Бураю і націскам,
Глыбока ў паэзіі.

# Ліст да цябе

Учора Яўтушэнка чарговы раз
Распавёў сваёй колішней каханцы,
Што Расея існуе толькі ў вершах Пушкіна
І прозе Талстоя.
Пішу табе, каб ты мне ізноў сказаў,
Што ты не прыдуманы пісьменьнікамі,
Што ты існуеш.
Я змагу тваю сьмерць вытрымаць,
І не шкадаваць нічога,
Калі памяць будзе.
Але твайго неіснаваньня, прабач мне,
Я не вытрымаю.
Таму што, калі я існую,
Калі я не прыдуманая паэтамі,
Я існую, таму што ты мяне існуеш;
Дакладней, я існую дзеля таго,
Каб ты мяне існаваў.

# Забыты верш

Хаваецца ён недзе ў шуфлядзе,
Ці постам у мёртвым блогу.
Бывае, што хаваецца бяз словаў,
У твары былога каханка,
У нагах чыстае жарсьці,
У балючых успамінах,
І чакае свайго пісаньня.
Ведае, што паэт яго
Колісь перачытае.
Нагадвае нам пра час,
Калі мы былі прыгожымі,
Наіўнымі, дурнымі,
І прымушае нас плакаць,
Калі нас ніхто ня бачыць.

# Музыка і рэвалюцыянерка

Ён быў скрыпачам, музыкам цудоўным,
Колісь наіўным быў ды маладым,
Ён быў (яшчэ ёсьць) мужчынам прывабным,
А сэрца меў заўсёды залатым.

Наконт яе мала хто нешта знае,
Таму што зьнікла зарана яна.
Яна для сьмерці на піяніна грала,
І яму дагэтуль яе шкада.

Сустрэліся, кахаліся, трывалі,
Згубіліся яны – Чыя віна?
І скрыпка ўсё сьпявае сумна, шчыра,
У ягоных руках...

*ff* Дзе яна? Дзе яна? Дзе яна?
*(rubato)*
*pp* Дзе яна? Дзе яна? Дзе яна?
*(rit……………………)*

# Ты выжыў

Ты выжыў, алілуя! Так, ты выжыў!
Я зноўку цябе абдыму ў засені яблыні,
Пацалую, калі вернесься,
Нягледзячы на тое, што ты
Можаш не адказаць пацалункам.
Скажу, што сумавала,
І зоймемся каханьнем.
Ты выжыў! Алілця, алілуя!
А шмат хто ня вернецца дадому,
Мо нават праз цябе.
Алілуя! Ты выжыў!
Якою цаною? Ніхто не пытаецца.

# Апэрацыя

Ён прачнуўся ў белым,
Нібы даляцеў да сёмага неба,
Гэта б яго ўжо не зьдзівіла.

Ён прачнуўся ў белым,
З болем у грудзях, глыбока,
Як па першым каханьні бывае.

Ён прачнуўся ў белым,
А ўнутры яго, надзейна і рэгулярна,
Білася ўпартае сэрца незнаёмае каханкі.

# Я мёртваю была

Пачну гэты верш вельмі непаэтычнымі словамі:
“Анафілактычны шок”.
Гэты выраз значыць,
Што чалавек імкнецца дыхаць,
Усё робіць, як сьлед,
Але паветра не ўваходзіць, так папросту, ў яго.
Я ад такога памерла ў дзяцінстве,
Вярнуў мяне лекар нейкім цудам
(На шчасьце ці на жаль).
Але ёсьць такі момант,
Распавяду я вам, бо ў мяне было:
Чалавек, які думае, што памрэ
Змагаецца ўсімі сваімі сіламі.
Чалавек, які ведае, што памрэ...
Ён не баіцца, не нэрвуецца,
Не змагаецца.
А калі выпадкова памыляецца,
І жыве,
Гэта зьмяняе яго назаўжды.

# Каго шукаеш?

Каго ты шукаеш, жанчына?
Чаго ходзіш ты тут адна?
Гэта ня тое месца, гэта ня той момант,
І тут, кажу табе, нікога няма.

Не шукай далей, вяртайся дадому,
Думай пра бясьпеку, не хадзі адна,
Гэта ня тое месца, гэта ня той момант,
І тут, абяцаю, нікога няма.

Табе мусіць быць халодна і сумна,
А няўжо ня страшна, што ты тут адна?
Не шукай ты сына, не шукай ты брата,
Не шукай каханка, бо яго няма.

Ён ужо ня вернецца,
Яго тут няма.

# Стары валацуга

Стары валацуга, дарагі валацуга!
Ня вер тым, хто кажа, што ты звар’яцеў!
Не вяртайся дадому яшчэ, валацуга,
Не страчвай надзею.
Калі памрэш ты, памрэ ўсё, што ў нас ёсьць,
І сьвет будзе брыдкім, і зіма ня скончыцца!
Ня вер рацыянальнаму, ня вер пераможцу,
Адзін ты гуляў справядліва, валацуга!
Ня слухай крыкаў роспачы і сьмерці,
Ня слухай песьні здрадніка,
Ня слухай выбухаў бомб...
Вер толькі мне, ці прынамсі
Дай мне памерці разам з табою,
У тваіх абдымках,
Бо адна я ня дам рады.

# Адказнасьць

Кажуць, існуе такі старажытны кітайскі праклён:
“Хай давядзецца жыць у цікавыя часы”.
Мы жывем у часы, калі ворагі паўсюль,
А людзей амаль няма.
Мы жывем у часы, калі ягнаты з’ядаюць ружы,
А баабабы з’ядаюць астэроіды.
Мы жывем  у часы, калі мужчыны ня плачуць,
А ў жанчынаў скончыліся сьлёзы.
Мы жывем у часы, калі нельга гаварыць праўду,
Бо праўды няма.
Цікавыя ў нас часы, сапраўды,
Калі нават добрыя людзі забываюцца,
Што мы нясем адказнасьць за тых,
Каго мы прыручылі.

# Чалавек

Пішу я да цябе, так! Да цябе!
А не да шэрае масы.
Толькі табе, бо нясеш на плячах
Вагу сусьвету, камень Сізіфуса,
Толькі табе, бо басанож ідзеш,
Невядома куды,
Толькі табе, бо страціў сваю веру,
Табе, бо маеш зламаныя крылы,
Што страціў свае сьлёзы.
Пішу я да цябе, хачу спытацца,
Ці ты ўжо – чалавек.
Я не.

# Памяць пра будучыню

Калі дзень падобны да дня,
І год да года,
І бяда да бяды, і вайна да вайны,
А мяняюцца толькі людзі,
У каго кепская кароткатэрміновая памяць
(Як гэта ні страшна, іх неверагодна шмат),
Пра будучыню памятаюць паэты й летуценьнікі.
Якая будучыня была прыгожая!
Будучыня калісь была поўная мараў,
Мы абяцалі не страчваць надзею, покуль будзем жыць,
Памятаеш, я зьбіралася ў цябе закахацца?
Мне цяжка паверыць, што ты забыўся.
Ад цябе не чакала такой здрады.

# Дабрыня

“Ты занадта добрая!”, мне кажуць,
Маўлаў, нельга так жыць,
Бо жорсткі сьвет мяне з’есьць.
Так! Правільна вы чыталі,
На тое вы й чытачы,
Абодва з вас.
Ёсьць такія людзі, якія шчыра думаюць,
Што можна быць “занадта” добрым!
Гэта значыць, што дабрыня бывае лішняю!
А я дагэтуль пытаюся,
Дзе менавіта тая патрэбная мяжа,
Тая вышуканая і крывадушная aurea mediocritas,
Каб можна быць, у межах здаровага сэнсу,
І каб цалкам не перайсьці на процілеглы бок.
Яшчэ чакаю, каб навукоўцы
Вызначылі канкрэтную лічбу.
Я нават не зьдзіўлюся.

# Філёляг і інжынер трэцяга клясу

Яна была крыху маладзейшая,
“Амаль філёляг”, ганарліва казала.
Засталася ў яе толькі абарона
Незразумелае працы па літаратуры.
Належала да школы цытрынавага дрэва
(Па-гішпанску “Лі-Мо-Нэ-Ро”),
І часта, надта часта, думала пра мэтатэзу,
І ведала некалькі моваў.

Ён меў дыплём інжынера,
Вельмі спэцыфічнае спецыяльнасьці.
Не працаваў, калі пазнаёміўся зь ёй,
На вялікае шчасьце, трэба сказаць.
Ён вучыўся праграмаваць,
І быў надзвычайна здольным чалавекам,
Хаця сам так ня думаў,
Бо быў ён сьціплым хлопцам.

Паміж імі было наступнае:
–Узаемная сімпатыя
–Нецэнзурная фантазія
–Сумесная мова
–Добрая зайздрасьць
–Любоў да паэзіі
–Дакладна 3733 кіламэтраў

Паміж імі будзе наступнае:
–Пекла і рай адначасова
–Чыстае плоцкае жаданьне

–Гарачая пяшчота
–Салодкая стома
–Каханьне... Жорсткае каханьне
–Мінімальная магчымая адлегласьць

# Паэтка адна

Поле, зіма, роспач,
Басанож яна ідзе, невядома куды,
З крывёю на нагах,
Шукае квету позьняе вясны,
Якая ўжо ніяк ня прыйдзе.
Паэтка ідзе адна, і робіць выгляд,
Што верыць яшчэ, што будзе вясна,
Што ейная кроў палівае зямлю
Пад сьнегам.
І будзе сонца, цеплыня будзе,
І буслы вернуцца праз блакітнае неба,
І будзе зялёная, мяккая трава,
Але вясна ня прыйдзе,
Хоць пра гэта,
Мабыць, ведае паэтка адна.

# Не забудзь, але забудзь

Хачу табе сказаць, “забудзь мяне”,
Калі вайна прымусіць разьвітацца,
Сказаць табе, “ня трэба спадзявацца,
Забудзь мяне, я не вярнуся, не!”

Хачу табе сказаць, “любоў знайдзі”,
Хачу табе сказаць, “амур, бывай,
Ня думай пра мяне ды не кахай”,
Сказаць “шукай уласны шлях, ідзі”.

Але пакуль я плачу ды хаджу,
Калі яшчэ ёсьць сэнс жыць, дыхаць хоць,
І сэрца кажа мне, “далей сьпявай”,

Ніколі я “кахаю” не скажу,
Ніколі не скажу я “не сыходзь”,
Але таксама не скажу “бывай”.

# Ойча наш

Pater noster, qui est in caelis
Зваліўся зь неба - мы адурэлі
Santificetur nomen tuum
Зь вёскі ў сталіцу, ты - калдун
Adveniat regnum tuum
Яшчэ куды, а нас - забудзь
Fiat voluntas tua, sicut in caelo et in terra
А мы стомлена чакаем, каб мінула твая эра
Panem nostrum, panem nostrum!
Голад, холад ды нож востры!

